


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

6 верасня 2002 года
№ 36 (385)
Выходзіць па пятніцах

плюс Тэлетыдзень

## Навіны рэгіёна

### Прэзідэнт адкрыў школу

**МАЛАДЗЕЧНА.** У панядзелак на адкрыццё СШ №14 прыяздждаў Аляксандр Лукашэнка.

Разам з прэзідэнтам Беларусі прыехалі старшыня Мінскага аблвыканкома Мікалай Дамашкевіч, члены ўрада і іншыя высокапастаўленыя чыноўнікі. Аляксандр Лукашэнка перарэзаў чырвоную стужку перад уваходам у школу і адкрыў "храм ведаў" сімвалічным ключом. Пасля экскурсіі па школе прэзідэнт нават пагуляў у тэніс на першым у горадзе корце і пагаварыў з маладзечанцамі.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Адзвінеў званочак

**МЯДЗЕЛ.** 11 дзетак з вёскі Чараўкі атрымалі непрыемны сюрпрыз – закрылася адзіная ў раёне пачатковая школа.

Прычына – малая колькасць вучняў. Адначасова Канстанцінаўская базавая школа, у якой вучылася 24 вучні, ператорнаяа ў пачатковую школу-сад.

**Марыя МІХАЙЛАВА.**

### Атлас Смаргоншчыны

**СМАРГОНЬ.** Такі наглядны дапаможнік у гэтыя дні атрымліваюць школьнікі раёна.

У мінулым навучальным годзе вучні 7 "А" і 7 "Б" класаў гімназіі пад кіраўніцтвам настаўніцы геаграфіі **Тамары Санюк** складалі атлас – фізіка-геаграфічны характар Смаргоншчыны.

Райінспекцыя аховы навакольнага асяроддзя вырашыла зрабіць асобнае выданне — наглядны дапаможнік. Летам 500 экземпляраў выдаў маладзечанскі прадпрымальнік.

**Тарэса КУМІШЧА.**

### Міністр у доме-інтэрнаце

**ВАЛОЖЫН.** 2 верасня Івянецкі дзіцячы дом-інтэрнат наведала міністр працы і сацыяльнай абароны Антаніна Морава.

На першы званок таксама завітала начальнік упраўлення працы і сацыяльнай абароны Мінскага аблвыканкома Ала Мікалуцкая. Госці прыехалі не з пустымі рукамі. Кожны вучань атрымаў падарунак. А дому-інтэрнату падарылі мікрахвалевую печ, магнітафоны і фены.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Лябедзька думае пра выбары

**АСТРАВЕЦ.** Напрыканцы мінулага тыдня райцэнтр наведаў лідэр Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Анатоль Лябедзька**. Тут адбылася сустрэча з актывам раённай арганізацыі. Асноўныя пытанні, што абмяркоўваліся падчас сустрэчы, тычыліся маючых адбыцца выбараў у мясцовыя Саветы дэпутатаў.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### Прыйшлі маладыя спецыялісты

**ВАЛОЖЫН.** 42 маладыя настаўнікі прыйшлі сёлета працаваць у раён.

25 з іх нарадзілася на Валожыншчыне, большасць з іх вярнулася працаваць у свае родныя школы. Перад пачаткам навучальнага года раённы фонд падтрымкі маладых спецыялістаў выдзеліў па 100 тысяч рублёў кожнаму настаўніку, які будзе працаваць у вясковай школе. Усе пачынаючыя настаўнікі атрымалі ў падарунак кнігу-хроніку "Памяць".

**СМАРГОНЬ.** Сюды прыйшлі 33 маладыя настаўнікі. Адзін з іх – магістр і тры – бакалаўры. Усе размеркаваныя па вясковых школах. Педагогамі раён укамплектаваны, чаго не скажаш пра ўрачоў, асабліва ў сельскіх бальніцах. Сёлета ў раён прыйшоў толькі адзін малады ўрач.

**Наталля ШТЭЙНЕР, Галіна АНТОНАВА.**

### Надвор'е на выхадныя

Субота, 7 верасня

| Мінск | Вільня |
|---|---|
| 11°C (уначы) 27°C (удзень) | 11°C (уначы) 25°C (удзень) |

Нядзеля, 8 верасня

| Мінск | Вільня |
|---|---|
| 10°C (уначы) 23°C (удзень) | 11°C (уначы) 22°C (удзень) |

# Раскопкі ля Краснага: пакуль вайна не пахаваная

**МАЛАДЗЕЧНА. Астанкі шасці чалавек знайшлі салдаты, што праводзяць раскопкі ля Краснага.**

Работу вядзе першая спецыялізаваная рота 52-а спецбатальёна з Мінска. Салдаты шукаюць астанкі ваеннапалонных часоў другой сусветнай вайны.

### Чаму ў Красным?

У мястэчку жыве сведка падзей 1941–43 гадоў. Як расказаў камандзір узвода лейтэнант Дзмітрый Чараповіч, жыхар Краснага збірае інфармацыю па ўвекавечванню памяці загінуўшых. Ён і паказаў два месцы, дзе падчас вайны знаходзіліся канцлагеры. Хаця ў архівах яны не значыліся. На месцы захаванняў у пасляваенны час засталося поле, якое, зразумела, выкарыстоўвалі па свайму назначэнню: аралі, вырошчвалі збожжа. Калі на раскопкі прыехаў спецыяльны батальён, сведка тых падзей сказаў, што цяпер яму можна паміраць спакойна.

### Палявы лагер

48 чалавек прыехала 22 жніўня ў Краснае. Салдаты тэрміновай службы разбілі палявы лагер. Такім чынам праходзіць іх служба з вясны па восень, калі надвор'е дазваляе працаваць. Ездзяць па ўсёй Беларусі, да Маладзечаншчыны былі пад Рагачовам. Колькі прабудуць у нас, пакуль невядома. Дзмітрый Чараповіч зазначае, што будуць капаць, пакуль усё не перакапаюць.

### Спосаб раскопак

Выкопваюцца ямы ў шахматным парадку. Салдаты расказвалі, што аб знаходжанні астанкаў можна здагадацца адразу: зямля вакол касцей мае цёмны колер. Адзяваюць пальчаткі і павязку на твар і працуюць ужо кісцямі рук і сапёрнай лапатай. Звычайна тады мёртвыя целы змяшчалі адно на адно. Знойдзеныя астанкі кладуць у мяшок і адвозяць у лагер, дзе фельчар праводзіць экспертызу. Потым усё перадаюць мясцовым уладам, якія і займаюцца перазахаваннем.


Фота Мікалая ХАДАСЕВІЧА.
**Малодшы сяржант Максім Скрыннік праходзіць тэрміновую службу ў спецбатальёне. Адшукваць астанкі людзей ужо прывык.**

### Раскопкамі займаецца не толькі спецбатальён

Хапае людзей, якія гатовыя самі займацца раскопкамі. Мэта адна: знайсці нешта з мінулага, каб можна было прадаць. Як правіла, вынік самастойнай працы адмоўны, а павага да загінуўшых у такіх людзей адыходзіць на другі план.

### Даведка

52-і спецбатальён па ўвекавечванню абаронцаў Айчыны і ахвяр войнаў створаны ў 1995 годзе па загаду прэзідэнта. Адзіны не толькі ў Беларусі, а нават ва ўсім СНД. Месца дыслакацыі – ваенны гарадок Уручча ў Мінску. За сем гадоў работы батальён эксгуміраваў і апазнаў па капсулах і жэтонах 82 чалавекі. Усяго паднята і перазахавана каля 20 тысяч загінуўшых. 170-і тысячам увекавечана памяць. Чаму эксгуміравана толькі 20 тысяч? Вялікія захаванні Трасцянец, Драздзы абазначалі на мясцовасці, бо яны налічваюць больш за 10 тысяч ваеннаслужачых.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

■ СПРАВЫ СМІ

# Мікола Маркевіч не будзе працаваць журналістам

**Былога галоўнага рэдактара гродзенскай газеты "Пагоня" Міколу Маркевіча не ўзялі на працу ў газету "Асіповіцкі край".**

І гэта нягледзячы на наяўнасць вакансій – у раённым выданні на сённяшні дзень не хапае двух карэспандэнтаў, фатографа і вадзіцеля. Галоўны рэдактар газеты Анатоль Тамашэўскі адмову ў працаўладкаванні патлумачыў Маркевічу забаронай "зверху".

У раённым аддзеле адукацыі, куды Мікола напісаў заяву аб прыёме на працу, канчаткова адказу пакуль не далі. Але, па словах Маркевіча, шанцаў уладкавацца настаўнікам у школу ў яго небагата.

– Па-першае, у школах прайшло дзесяціпрацэнтнае скарачэнне педагогаў, - паведаміў Мікола Маркевіч. – Падругое, скарочаная колькасць гадзін для філолагаў. Ну, і нарэшце, асноўнае: я "хімік" не просты, а "палітычны".

Чацвёрты дзень пошукаў працы скончыўся для Міколы Маркевіча размовай з "добразычліўцам", які не пажадаў назваць сваё імя. Ён запэўніў, што на працу ў Асіповічах Міколу ніхто не возьме.

**Юлія Дарашкевіч, www.pahonia.promedia.com.**

Міколу Маркевіча накіравалі ў Асіповічы на вольнае пасяленне на паўтара года.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ КАМУНАЛЬНЫЯ ПАСЛУГІ

# Вырашайце праблемы за ўласныя грошы

**МАЛАДЗЕЧНА. 30 жніўня ў горадзе прайшла выязная калегія Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі (ЖКГ). У канцэртнай зале музычнага вучылішча сабраліся работнікі міністэрства, кіраўнікі абласных, раённых і гарадскіх камунальных гаспадарак.**

Напярэдадні міністр ЖКГ Аляксандр Мількота ў гарвыканкоме правёў прыём гараджан па асабістых пытаннях.

## Ваша шчасце – у вашых руках

Міністр пачаў сустрэчу словамі: “Я працую не па прынцыпу: пан прыехаў – пан рассудзіць. Забудзьцеся пра тое, што было ў савецкія часы. Ваша шчасце – у вашых руках”.

На прыём запісаўся 31 чалавек. Але прыйшло больш.

Большасць наведвальнікаў турбаваў стан іх дамоў. Асабліва тых, якія пабудаваныя ў 50-60-я гады. Жыхары **дома №11 па вуліцы Садовай** скардзіліся на тое, што працякае дах. Сырасць ва ўсім доме. Зімой на яе месцах з’яўляецца іней. Тэмпература ў пакоях не перавышае +14°С.

Міністр сказаў, што гэты дом возьме на кантроль. Да 15 кастрычніка яго, наколькі магчыма, падрыхтуюць да ацяпляльнага сезона.

**У доме №39 па вуліцы Чыгуначнай** нават халоднай вады няма. А зімой вада ў калонцы, якая стаіць на вуліцы, замярзае.

Без капітальнага рамонту вады ў доме не будзе. Абгаварылі варыянт, што знешнія камунікацыі падвядзе “Камунальнік”, а ўнутраныя работы будуць праводзіцца за кошт жыхароў.

16-кватэрны двухпавярховы **дом №9 па вуліцы Алаізы**, які пабудаваны ў 1959 годзе, знаходзіцца ў аварыйным стане. Прыбіральні, што на двары, таксама. Капітальны рамонт запланаваны на 2008 год. А **дом №72 па вуліцы Замкавай** пабудаваны ў 1947 годзе. Жыхары сведчылі, што тут ні разу не рабілі капітальны рамонт.



Фота Ірыны РАБУШКІ.

**Міністр жыллёва-камунальнай гаспадаркі Аляксандр Мількота ў зале пасяджэнняў гарвыканкома падчас прыёму маладзечанцаў па асабістых пытаннях.**

Наконт дома па вуліцы Алаізы Аляксандр Мількота сказаў, што пра капітальны рамонт і размовы не трэба весці, бо дом знаходзіцца ў вельмі дрэнным стане. Міністр даручыў падладзіць дом да пачатку халадоў і сказаў, што возьме справу пад свой кантроль. А жыхарцы гэтага дома паабяцаў адрамантаваць акно за свой кошт.

Жыхароў дома №72 запэўнілі, што капітальны рамонт там правядуць.

Амаль адныя пенсіянеры і інваліды жывуць **па вуліцы Будаўнікоў, 9**. Гэтаму кааператыўнаму дому 27 гадоў. Трэба мяняць трубы і бойлер. Вада дрэнна даходзіць да 4-5 паверхаў.

Міністр прапанаваў адрамантаваць дом за ўласныя сродкі.

Прыйшла цэлая дэлегацыя жыхароў з **дома №6 па вуліцы Прытыцкага**. Дом стаіць у цэнтры горада, насупраць гарвыканкома, пабудаваны ў 1956 годзе. Жыхары прынеслі фотаздымкі свайго жылля. Памыцца няма дзе. Душ ці ванную па санітарных нормах устанавіць нельга. У прыбіральні чэрві поўзаюць. У адной з такіх кватэр жыве жанчына з мужам-калясачнікам, яны выхоўваюць пяцёра дзяцей і ўнучку.

Міністр папрасіў жыхароў пацярпець з паўгода, пакуль там будуць праводзіць рамонт. А жанчыне з пяццю дзецьмі прапанаваў купіць кватэру за ўласныя сродкі, бо бясплатнага сацыяльнага жылля ў Маладзечне няма і ў бліжэйшы час не будзе.

На развітанне міністр падвёў вынік:

– Свае праблемы лепш вырашаць за ўласныя грошы, бо ў дзяржавы іх няма.

## Калегія

Ад раніцы ўдзельнікі калегіі паехалі па гарадскіх аб’ектах, а пасля сабраліся ў канцэртнай зале музычнага вучылішча на пленарнае пасяджэнне.

Асноўным пытаннем быў стан работы са зваротамі насельніцтва. Міністр адзначыў, што ў 42% зваротаў просяць даць кансультацыю па аплаце за камунальныя паслугі. Задавалі падобныя пытанні і міністру падчас мінулага прыёму. Аляксандр Мількота заўважыў, што гэта не работа міністра даваць кансультацыі па аплаце. Такія пытанні павінныя вырашацца на месцах.

Міністр закрануў яшчэ шэсць пытанняў, якія маюць агульнарэспубліканскі характар: падрыхтоўка да зімы, капітальны рамонт жылых памяшканняў, аказанне платных паслуг насельніцтву, заработная плата кіраўніцтва, праверка міністэрства камітэтам дзяржаўнага кантролю, увод у эксплуатацыю пустуючых памяшканняў.

Больш падрабязна разбіралі першыя чатыры. Міністр паведаміў, што не было яшчэ на яго памяці такога года, калі мазуту нарыхтавалі толькі 26% ад неабходнага. Аляксандр Мількота параіў кіраўнікам абласных камунальных гаспадарак:

– Рабіце, што хочаце, але вынік павінны быць адзін – дастатковая колькасць паліва ва ўсіх раёнах.

Капітальны рамонт памяшканняў – адна з галоўных праблем. Па выніках паўгоддзя ў краіне адрамантавана 36% плошчаў ад гадавога плана. Адставанне трэба ліквідаваць, графік правядзення рамонтаў трэба ўзяць пад кантроль кожнаму кіраўніку.

Да канца года колькасць платных паслуг насельніцтву павінная ўзрасці на 20%. У наступным годзе – яшчэ ўдвая. Камунальная гаспадарка павінная складаць канкурэнцыю прыватніку ў аказанні паслуг, асабліва рытуальных.

Пагаварылі яшчэ аб заработках кіраўніцтва. Нягледзячы на тое, што было ўказанне прэзідэнта, каб заработная плата кіраўніка не перавышала 500 тысяч рублёў у месяц, міністр зачытаў спіс з шэрагу кіраўнікоў, якія мелі афіцыйныя зарплаты па 600 тысяч і вышэй. Былі і звыш мільёна. Аляксандр Мількота сказаў, што зарплаты трэба змяншаць. Трэба быць больш сціплымі і аглядвацца на сярэднюю зарплату ў калектыве.

**Ірына РАБУШКА, Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ГРОШЫ

# Беларусь не знікне. Рубель таксама

**Сустрэчы прэзідэнтаў Расіі і Беларусі, якія нядаўна прайшлі ў Маскве, дазволяць не толькі зняць усялякія двухсэнсоўныя тлумачэнні наконт саюза дзвюх братніх краін і народаў, але і азначаюць недапушчальнасць падобнага ў далейшым.**

Трэба аддаць належнае расійскаму прэзідэнту за яго радыкалізм. Бо раней беларускі бок на бясконцых перагаворах па саюзу пастаянна заганяў расіян у кут сваімі новымі ініцыятывамі, і, як вынік, чарговымі патрабаваннямі. Нічога зразумелага наконт інтэграцыі і саюза кім-небудзь даўно не гаварылася. І расіяне змарыліся. Імкненне Крамля хутчэй уступіць у Сусветную гандлёвую арганізацыю і ўвогуле стаць нармальнай краінай з рыначнай эканомікай пастаянна бы натыкалася на няўнасць такога няўдачнага партнёра па саюзу, як Лукашэнка. Таму Пуціну і прыйшлося не толькі зняць ўсялякія шматкроп’і наконт саюза, але і ўнесці шмат важкіх ініцыятыў. Гэтым ён не проста згнаў у кут нашага прэзідэнта, але і наогул выкінуў з гульні. Саюз Беларусі і Расіі блукаў і даблукаўся настолькі, што эканамічна ўжо ўсё і так на ўзроўні – рынкі адкрыты, мытняў няма, плацяжы суб’ектаў праходзяць у дзвюх валютах. Засталося нявырашаным толькі адно галоўнае, палітычнае, пытанне – уваходжанне ў Расію ці ўсё ж такі пастаянныя катаванні пытання аб суверэнітэце краіны. Імкненне атрымліць энергарэсурсы з Расіі па іх унутраных цэнах, а не па сусветных, і ў той час захаванне суверэнітэту немагчыма адначасова. А Пуцін наогул прапанаваў паскорыць працэс пераходу на адзіную валюту саюза – расійскі рубель – не з 2005-2008, а раней, з 1 студзеня 2004 года. Менавіта гэта пазбавіла б беларускую ўладу фінансаў. Бо пры пераходзе на адзіны эмісійны цэнтр усе паступлення грошай у суверэнную дзяржаву і ўсе аперацыі расходавання сродкаў былі б тут жа вядомыя Цэнтральнаму банку Расіі. Таму і прыйшлося тэрмінова ўспомніць аб суверэнітэце, аб жаданні мільёнаў беларусаў жыць у сваёй незалежнай краіне. Гэта радуе, бо азначае, што Беларусь не знікне. Ні геаграфічна, ні палітычна.

Усе падзеі апошніх тыдняў не могуць не адбіцца на ўсіх нас. Нам вельмі патрэбныя пастаўкі паліва па расійскіх цэнах, рынкі збыту беларускай прадукцыі ў расійскіх рэгіёнах. Мільярдныя крэдыты расійскага Цэнтрабанка нам таксама неабходныя – для падтрымання сярэдняга ўзроўню заработнай платы на 100-доларавай адзнацы. Гэтай зімой мы ўсе хочам цяпло і гарачую ваду ў кватэрах і хочам аплачваць па-старому. Аднак нам усё роўна прыйдзецца пачынаць рэформы. Бо без расійскіх заказаў і паставак паліва беларускі рубель не ўстаіць. І рэальная яго вартасць акажацца на ўзроўні 2500 рублёў за долар. Тады ўжо сапраўды прыйдзецца адмовіцца ад бюджэтнага фінансавання ўсёй эканомікі і амаль поўнай занятасці. Суверэнітэт эканамічны і фінансавы нашай краіне прыйдзецца адваёўваць – так проста яго не атрымаеш. І тут простага галасавання кожнага мала – прыйдзецца закасаць рукавы і шмат працаваць. Толькі тады застанецца краіна, застанецца і яе валюта.

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 29 жніўня | 5 верасня |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 1847,00 руб. | 1852,00 руб. |
| Еўра | 1811,54 руб. | 1840,24 руб. |
| Злоты | 442,77 руб. | 450,41 руб. |
| Літ | 524,49 руб. | 532,89 руб. |
| Расійскі рубель | 58,50 руб. | 58,58 руб. |
| **«Вулічныя» курсы ў Маладзечне** | | |
| Долар | 1850-1875 руб. | 1850-1870 руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 28.08 | 4.09 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 10990 | 10900 |
| Сасіскі, 1 кг | 4900 | 4900 |
| Селядзец, 1 кг | 2500 | 2500 |
| Рыс, 1 кг | 680 | 700 |
| Грэчка, 1 кг | 530 | 530 |
| Цукар, 1 кг | 820 | 820 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1200 | 1200 |
| Алей, 1 л | 1850 | 2000 |
| Маянэз, 200 г | 400 | 400 |
| Кава “Пеле”, 100 г | 2000 | 2000 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 600 | 600 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 650 | 700 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 600 | 650 |
| Капуста, 1 кг | 400 | 450 |
| Лімоны, 1 кг | 1800 | 1700 |
| Апельсіны, 1 кг | 1500 | 1450 |
| Агуркі, 1 кг | 450 | 500 |
| Памідоры, 1 кг | 720 | 850 |
| Кавуны, 1 кг | 400 | 450 |
| Морква, 1 кг | 500 | 500 |
| Дыня, 1 кг | 1300 | 1000 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Малако, 1 л | 550 | 400 |
| Смятана, 1 л | 1800 | 2800 |
| Масла, 1 кг | 4000 | 4000 |
| Тварог, 1 кг | 1500 | 1800 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1500 | 1400 |
| Бульба, 1 вядро | 2200 | 2800 |
| Алыча, 5-л. вядро | 1000 | 1500 |
| Слівы, 5-л. вядро | 3000 | 3000 |
| Абляпіха, 5-л. вядро | 5000 | 5000 |
| Чарнаплодная рабіна, 5-л. вядро | 3000 | 3000 |

■ ВЫТВОРЧАСЦЬ

# Пераможцы не вызначыліся

МАЛАДЗЕЧНА. Ніводнае прадпрыемства горада не выканала ўмовы эканамічных спаборніцтваў сярод прадпрыемстваў гандлю і грамадскага харчавання за першае паўгоддзе.

Вынікі спаборніцтва гарвыканком падвядзе за ўвесь год.

**Ірына РАБУШКА.**

■ ГАНДАЛЬ

# Не ад лёгкага жыцця

СМАРГОНЬ. З мэтай зарабіць сабе дадатковы прыбытак калгас “Кушляны” адкрыў у горадзе фірменны магазін “Верас”. Прадаюць тут сыры, кілбасы, мяса, гарэлку і іншыя прадукты.

Каля паўтара года гэта памяшканне пуставала. Цяпер зрабілі рамонт.

**Тарэса КУМІШЧА.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

# Забралі грошы і медалі

АСТРАВЕЦ. Дзесяць медалёў удзельніка Вялікай Айчыннай вайны і 200 долараў ЗША забралі ў 90-гадовых пенсіянераў з вёскі Караняты “начныя візіцёры”. Сярод ночы яны разбілі акно, залезлі ў дом і збілі гаспадароў.

Міліцыя неўзабаве выявіла злодзеяў. Імі аказаліся 19-гадовы літовец і 18-гадовы мясцовы жыхар.

**Мар’ян ВЯНГРОЎСКІ.**

■ СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

# Мінус «Канстанцінава»

**МЯДЗЕЛ. На адзін калгас меней стала ў раёне: «Канстанцінава» з цэнтрам у Камарове далучылі да суседняга калгаса «Свір».**

Апошнім часам «Канстанцінава» ўстойліва трымалася ў адстаючых амаль па ўсіх паказчыках. Варыянты яго далейшага існавання за паўгода ўзнікалі розныя: далучэнне да мясцовага сельскагаспадарчага ліцэя, стварэнне фермерскіх гаспадарак, якім меліся дапамагчы немцы. Але выбралі традыцыйны спосаб: далучылі да больш моцнай гаспадаркі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# ВІНШАВАНКІ

**Ганне Міхайлаўне Кастрыцкай** з Маладзечна
З 70-годдзем!
Дарагая, любімая мамачка, бабуля, прабабуля! Сардэчна віншуем цябе з юбілеем! Няхай беды і трывогі абмінаюць твой дом. Няхай сэрца тваё ніколі не ведае болю і смутку. Моцнага здароўя табе, дабра і спакою. І вялікі дзякуй за любоў, клопат аб нас.
Мамочка родная, любимая,
Бабушка славная, незаменимая!
С юбилеем тебя поздравляем,
Всяческих благ тебе мы желаем:
Будь здоровой, родная, счастливой,
Не грусти и подольше живи,
Наша жизнь и теплей, и красивей
От твоей материнской любви.
*Сям'я Дудко.*

З юбілеем віншуем любую матулю **Людмілу Лазар**! Здароўя, шчасця і ўсяго найлепшага. *Муж, дзеці.*

Віншую з днём нараджэння **Таісу Страшкевіч**! Жадаю жыцця вялікага і прыгожага, кахання моцнага і шчаслівага. *Рэгіна.*

Віншуем з 18-годдзем **Алесю Дасіневіч**! Жадаем здароўя, шчасця, кахання, поспехаў у вучобе, усяго найлепшага. *Сем'і Соусяў і Страхаў.*

Віншуем **Ганну Насадовіч** з Вілейкі з днём нараджэння! Жадаем шчасця і здароўя, кахання і цеплыні. *Мама, бабуля.*

Дарагая **Людачка Шупенька**, віншую з днём нараджэння! Жадаю здароўя, кахання і шмат верных сяброў. *Твая сястра Таня.*

Дачушка **Людміла Шупенька**, віншуем з 15-годдзем! Жадаем шчасця, здароўя, поспехаў у вучобе і здзяйснення ўсіх мар. *Мама і тата.*

Сардэчна віншуем **Ніну Уладзіміраўну Кабыльчанку** з 55-годдзем! Жадаем моцнага здароўя, сямейнага дабрабыту. Не беда, что годы быстро мчатся, серебристый оставляя след. Мы тебе желаем много счастья, бодрости, здоровья, долгих лет. *Сям'я Ахрэм.*

■ ШКОЛА

## Ведам – зялёнае святло

**МАЛАДЗЕЧНА. Новы навучальны год ў сярэдняй школе №6 пачаўся яшчэ ў мінулую пятніцу.**

30 жніўня на базе СШ №6 адкрылі першую гарадскую пляцоўку па вывучэнню правілаў дарожнага руху. Гэта зроблена па ініцыятыве гарадскога аддзела адукацыі і Дзяржаўтаінспекцыі. Апошняя падарыла дарожныя знакі.

На пляцоўцы будуць займацца вучні 1-8 класаў шостай і суседніх школ. Адзнакі па бяспецы дарожнага руху інструктары ставіць не будуць.

**Ірына РАБУШКА.**


Фота Ірыны РАБУШКІ.
**«Цішэй едзеш – далей будзеш», – перакананы юны «вадзіцель».**

■ КОНКУРСЫ

## Зарабі білеты ў кіно

Адзін нарвежскі юнак так любіў творчасць Дастаеўскага, што перад сваім вяселлем у шлюбны кантракт запісаў умову: жонка павінная штодзень прачытаць па 10 старонак яго любімага рамана. Нявеста гэтага юнака адказала адным словам і пад вянец не пайшла.

Паспрабуйце адгадаць, што сказала дзяўчына?

Правільны адказ на мінулае заданне – жарабец. Віншую **Яўгена Кубракова і Юрыя Юхневіча** і запрашаю абодвух па білеты ў кіно.

Тэлефануйце 69667 (апошні трэрмін – 10 верасня, 15-00).

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

## Правы чалавека

Пашчасціла адной дзяўчыне з Маладзечна. На працы ў Польшчы пазнаёмілася яна з багатым датчанінам, яны пакахалі адзін аднаго і ўтварылася сям'я. Жывуць ў Даніі, ён – гаспадар адной фабрыкі. І вось аднойчы запрасіў свайго цесця да сябе ў краіну, а заадно і да сябе на працу. Сядзяць у кабінеце, размаўляюць. Тут бацька вырашыў пагутарыць з падначаленымі свайго зяця – простымі дацкімі рабацягамі. Зяць, калі пачуў гэта, аж падскочыў, пагледзеў на свайго беларускага родзіча, як на Усаму бен Ладэна, і пачаў нешта даказваць. Аказалася, што ў гэты самы час у рабочых быў абедзенны перапынак. А пакольні абедзенны перапынак – іх асабістая справа, то ніхто не мае права іх турбаваць. Ні сам бос, ні яго родзічы са сваімі пытаннямі. У зваротным выпадку парушаюцца правы на асабістае жыццё... А на гэта гаспадар пайсці не мог.

P.S. Калі зноў пачалася праца, рабочыя з ахвотай адказалі на ўсе пытанні. Нашага госця ўразіла тое, што і там працуюць па 8 гадзін, тымі ж рукамі, прыкладна тымі ж прыладамі. А якасць працы ў нас можа нават і лепшая. Але дабрабыт дацкага і беларускага рабочага проста непараўнальны. Дык, можа, уся справа менавіта ў гэтых самых правах чалавека? Выходзіць, больш правоў – больш рублёў?!

**Алег БЯГАНСКІ.**

■ ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

## Бульбяная салата па-італьянску

**500 г маладой бульбы, соль, 30 г кедравых арэшкаў, 4 памідоры, 200 г салаты ліставой, 4 лыжкі белага віннага воцату, 2 лыжкі салодкай гарчыцы, перац, 6 лыжак алею, 40 г бекона, 125 г брынзы.**

Бульбу памыць і зварыць. Абабраць яе і нарэзаць скрылікамі. Падсмажыць кедравыя арэшкі да залацістага колеру, не дадаючы тлушчу. Памідоры вымыць і нарэзаць кубікамі.

Салату вымыць і абсушыць. Перамяшаць воцат, гарчыцу, соль і перац. Змяшаць з алеем. Перамяшаць з бульбай соус. Нарэзаць невялікімі кавалачкамі бекон і падсмажыць яго на патэльні да хрумсткага стану. Перамяшаць бульбу, салату, брынзу і памідоры. Пасыпаць кедравымі арэшкамі і беконам.

### Кінатэатр «Радзіма»

**6-8 верасня**

**"Інтуіцыя"**, ЗША, рамантычная камедыя. Джанатан і Сара праводзяць захапляльны вечар і расстаюцца ўпэўненыя ў тым, што хутка зноў убачацца. Але лёс наканаваў ім іншае... – у 17.00 і 21.00.

**"Ямакасі, ці Новыя самураі"**, Францыя. Некалькі дзён з жыцця парыжскіх экстрэмалаў, скачкі з даху шматпавярховых дамоў, пагоні... – у 15.00 і 19.00.

**9-15 верасня**

**"Спартак і Калашнікаў"**, Расія, сямейнае кіно. Герой фільма — Шурка Калашнікаў і яго верны сябар аўчарка Спартак. Камічныя сцэны з жыцця важных персон у сабачай гасцініцы, цыркавыя і музычныя нумары, пагоні... – у 15.00 і 17.00.

**"Абяцанне"**, ЗША, трылер – 19.00 і 21.10.

**ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ:**

8 верасня – мультзборнік **"Братка Трус і братка Ліс"** – у 13.00.

■ ІМЯНІНЫ

**6 верасня**
**Праваслаўныя**: Арсенія, Георгія, Пятра, Яўціхія.
**Каталіцкія**: Беаты, Яўгена.

**7 верасня**
**Праваслаўныя**: Варфаламея, Міны, Ціта.
**Каталіцкія**: Рэгіны.

**8 верасня**
**Праваслаўныя**: Наталлі, Андрыяна, Сцяпана.
**Каталіцкія**: нараджэнне Прачыстае Дзевы Марыі, Радаслава.

**9 верасня**
**Праваслаўныя**: Анфісы, Пімена, Савы, Сцяпана.
**Каталіцкія**: Пятра, Сяргея.

**10 верасня**
**Праваслаўныя**: Анатоля, Арсенія, Дзяніса, Ігната, Макара, Паўла, Рыгора, Фёдара.
**Каталіцкія**: Лукача, Мікалая.

**11 верасня**
**Праваслаўныя**: Іван Галавасек.
**Каталіцкія**: Прота, Яна, Яцка.

**12 верасня**
**Праваслаўныя**: Аляксандра, Арсенія, Данілы, Івана, Макара, Паўла, Якава, Яфрэма.
**Каталіцкія**: Марыі.

# ЗНАЁМСТВЫ

27/177/75, пазнаёмлюся з прыгожай дзяўчынай. 222310, Маладзечна-6, п/п МС 0693516.

Прыемная жанчына 49/160 пазнаёміцца з прыемным мужчынам для сяброўства. Маладзечна-4, п/п МС 0823657.

23/181/73 пазнаёмлюся з дзяўчынай ад 20 да 27 год. 222410, Вілейка-4. Д/з МС 0191300.

Урач, 55/170/77, шукае жонку 37-43 гады, худзенькую, прыгожую, рост 156-163 см, з 1 дзіцем. Мінск-92, да запатрабавання, Мікалай Васільчанка.

Прыемная жанчына 42/163/63 пазнаёміцца з прыемным адзінокім мужчынам для сур'ёзных адносін. Маладзечна-6, п/п ОМ-ХІХ №860435.

Адзінокі мужчына, 47/170/70, пазнаёміцца з адзінокай, прыемнай, без шк/зв. жанчынай, да 48 год, з жыллём. Маладзечна-6, п/п КН 0476572.

**Звярніце ўвагу**

Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!

Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!

**Купон 36**
да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы».
Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў.
Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

ТЭКСТ

Рэгіянальная газета

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ МАЛАДЗЕЧАНЦАЎ

# Ці хацелі б жыць у грамадзянскім шлюбе?

**Здзівілі людзі больш сталага ўзросту, якія звычайна да "навінак" ставяцца скептычна... Большасці з іх грамадзянскі шлюб прыходзіцца даспадобы. І яны не супраць так пажыць. Маладыя ж усё больш хочуць вянчацца.**



**Анастасія Лях, студэнтка акадэміі фізвыхавання і культуры:**

— Грамадзянскі шлюб – не для мяне. І ўвогуле, я не хачу выходзіць замуж. А калі і пайду, то абавязкова буду вянчацца. Лепш за ўсё жыць у царкоўным шлюбе. Мне такую параду даюць і маці, і знаёмыя.



**Стась Абрамовіч, студэнт БДУ:**

— А я жыву ўжо. Але не хачу. Усё павінна быць па божаму закону. Я хачу вянчацца са сваёй абранай у царкве і распісвацца ў ЗАГСе. А ў грамадзянскім шлюбе даводзіцца жыць па маладосці.



**Наталля Літвін, загадчыца інтэрната завода "Спадарожнік":**

— Я не супраць такіх шлюбаў. Напрыклад, мой пляменнік жыве ў грамадзянскім шлюбе. Так можна лепш пазнаць чалавека, пазбегнуць многіх разводаў.

**Віктар Воўчак, механік:**

— Я супраць такіх шлюбаў. У такіх сем'ях няма цэласнасці і сэнсу. Такі шлюб можа разбурыць нават маленькая дробязь. Адна палова заўсёды можа пайсці з сям'і, калі не нешта не задавальняе. Тут меншае, у параўнанні са звычайным шлюбам, пачуццё адказнасці.



**Іван Гулевіч: беспрацоўны:**

— Я з жонкай так паўгода жыў, перш чым зарэгістравалі шлюб. Мы лепш пазналі адзін аднаго. У грамадзянскім шлюбе людзі больш свабодныя і незалежныя.

**Святлана Кананові́ч, школьніца:**

— Не, я супраць такіх шлюбаў, лепш звычайны, з вянчаннем. Мае бацькі рэгістравалі шлюб, і я буду браць з іх прыклад.

**Фотаапытанне падрыхтавалі Ірына РАБУШКА, Алег ГАРУНОВІЧ.**

## Гараскоп 9 – 15 верасня



**Авен** (21.03–20.04)

«Загружу я сябе работай паболей...» - вырашае Авен і памыляецца. Амаль увесь гэты перыяд вам лепш за ўсё адпачываць, забыцца пра ўсе праблемы, якія ніколі не заканчваюцца. Садзік, агародзік, бераг рэчкі, ноч каля кастра – вось самыя лепшыя заняткі на бліжэйшыя дні.



**Цялец** (21.04–21.05)

У адзінокіх жанчын-Цяльцоў з'явіцца шанс знайсці свой лёс. Магчыма, гэта адбудзецца ў пачатку перыяду, магчыма, некалькі пазней. Але тое, што ўзрастуць чароўнасць, сексапільнасць, прыцягальнасць, відавочнае. А вось мужчын падсцерагае «бабскі бунт» і ўсплёск нездаровай актыўнасці ў сям'і. Беражыце горла.



**Блізняты** (22.05–21.06)

Рухавыя і вясёлыя Блізняты ў гэтым перыядзе будуць больш «затармажанымі». Работа не прынясе ім ніякага задавальнення. Не будзе ўзаемаразумення з партнёрамі па шлюбу, з сябрамі, у сям'і ў цэлым. Але ў канцы перыяду вас чакае прыемны сюрпрыз.



**Рак** (22.06–23.07)

Гэты перыяд многім жанчынам-Ракам верне радасць жыцця: ваш партнёр у захапленні ад вас і ў вас з'явіцца адразу некалькі паклоннікаў. Што тычыцца мужчын – то ў іх абвастрэнне фінансавых праблем, якія пакуль не будуць вырашаны, і лёгкая дэпрэсія.



**Леў** (24.07–23.08)

Гэты перыяд не прынясе ні ўзрушэнняў, ні перамен. Спакойнае, нават можна сказаць, ціхамірнае існаванне не азмрочыць нават злоснікі, якія таксама прымарыліся ад барацьбы і акунуліся з галавой ва ўласнае жыццё. Дэвіз гэтага перыяду – сям'я і дзеці. У вас таксама не будзе недахопу ў цікавых субяседніках.



**Дзева** (24.08–23.09)

Хочацца як мага больш і хутчэй – гэта пра грошы... Але пакуль сітуацыя застаецца напружанай і не можа вырашацца адным узмахам. Так што бізнесмены могуць пайсці ў адпачынак, а ўсе іншыя Дзевы проста зацягнуць тужэй рамяні. Зрэшты, яшчэ ніхто і ніколі не бачыў «убогіх» прадстаўнікоў гэтага знака. Магчымыя непрыемнасці на дарогах, так што пасядзіце дома.



**Шалі** (24.09–23.10)

Бурнае высвятленне сямейных адносін, схавацца ад якога можна толькі на рабоце ці ў старэйшых з радні. У той час некалькі ўмацуецца фінансавы стан. Вашы даходы могуць узрасці ад продажу, пасрэдніцкай дзейнасці і асабістага абаяння. А вось з інвестыцыямі не спяшайцеся, адкладзіце іх на далей.



**Скарпіён** (24.10–22.11)

Нечаканы паварот падзей: ці ў вашай, ці ў яе (яго) жыцці з'явіцца хтосьці новы. Галоўнае, утрымацца на ўзроўні знешніх сімпатый, якія не пераходзяць у глыбокія пачуцці. Ваша палкасць таксама хутка праходзіць, як і ўзнікае. Вы проста можаце падвесці блізкага чалавека.



**Стралец** (23.11–21.12)

Магчымыя некаторыя ўскладненні са старэйшымі членамі сям'і і бацькамі. Гэта будзе звязана, хутчэй за ўсё, з супрацьлеглымі поглядамі на капіталаўкладанні і сямейны бюджэт. Вы захочаце большай самастойнасці і свабоды. Але гэта лёгка можна будзе ўладзіць, толькі не патрэбна раскрываць свае карты поўнасцю, пашкадуйце чужое самалюбства.



**Казярог** (22.12–20.01)

Увесь перыяд Казярогі будуць сутыкацца з пастаяннымі нечаканасцямі на рабоце: шмат новых уражанняў, цікавых выпадкаў і іншых сюрпрызаў. Сумаваць няма калі. Уласнае жыццё адсунецца на іншы план, адносіны да партнёра ўжо перажылі фазу ўзлёту і стануць больш роўнымі і халоднымі. У выхадныя дні пастарайцеся прывесці ў парадак месца пражывання.



**Вадалей** (21.01–19.02)

Паберажыце наяўнасць. Але якраз у гэты перыяд вам захочацца траціць грошы па загаду сэрца, а не па неабходнасці. Зрэшты, яшчэ невядома, што больш карысна для нервовай сістэмы... Добрая фізічная форма і прыўзняты настрой забяспечаны вам надоўга, а вось пасля – настальгічныя ўспаміны.



**Рыбы** (20.02–20.03)

Магчымыя прэміі і павышэнні зарплаты. А эмацыянальны стан ваш павінны быць у гэты перыяд як ніколі стабільны – радыкальных рашэнняў патрабуюць ўзаемаадносіны з партнёрам: ці так, ці так. Інакш...



■ НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

## Вынаходнік

Іду па вуліцы. Прыватны сектар. Спёка. На небе – ні хмаркі. Падыходжу да сваёй хаты. Насупраць толькі што пабудаванага гаража з вядром у руцэ стаіць ушчэнт мокры сусед. Вада цурком бяжыць з адзежы. Здаецца, няма на ім ніводнай сухой ніткі. Пытаюся: што здарылася?

Калі закончыў крыць дах гаража, нешта яму падалося, што ўхіл даху занадта малы. І дажджавая вада не будзе мець сцёку. А паколькі вада заўсёды адтуліну знойдзе, будзе свісцаць у гараж. Надумаўся сам сабе і вырашыў праверыць.

Набраў у вядро вады, залез на падстрэшак і вывернуў гэтае вядро... на сябе. Але вынік атрымаўся цалкам станоўчы. Дождж транспарту не пагражае. Відавочна, сусед быў задаволены.

А я глядзеў на яго і думаў пра Кулібіна, Ампера, Ома і іншых вынаходнікаў. Бедныя! Праз што ім трэба было прайсці!

**Алесь РАЛАВЕЦ.**

## Пра лякарствы

На лавачках каля пад'ездаў старых дамоў можна пачуць усё. Нездарма гэтыя "пасядзелкі" мая бабуля называла "прэзідыюм". Бо збіраюцца там пагаманіць звычайна старыя людзі. Часам вострыя на язык.

І вось што назіраў. Выйшаў сусед пасядзець, бо даняла жонка "выхаваннем". Справа ў тым, што на свята "насвяткаваўся". Ды так, што, упаўшы, моцна пабіўся. І сапраўды пераважвалі блакітна-чырвоныя колеры на ўвесь твар.

Сядзіць сусед дый жаліцца суседцы. Што, маўляў, сустрэў сябра. Разам служылі. Успаміналі гады маладыя, ды і не ўдалося вось так... Цяпер жонка лае... І перад людзьмі сорамна... Стары ўжо ж... Але ж павінна быць нейкае лякарства, якое б зажывіла яго збіты твар?

Вострая на язык суседка спачатку сказала, што вельмі добра яго ведае. І дапаможа яму нават без рэцэпта. І без доктара. А лякарства вельмі простае: "не пі".

**Алесь РАЛАВЕЦ.**



Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017(2)

Рэгіянальная газета

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ, Ніна МАНЦЭВІЧ.
Пасведчанне № 227.
Галоўны рэдактар **Аляксандр МАНЦЭВІЧ**.

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах. Тыраж **9100 экз.** Індэкс **63212** (індывідуальная падпіска), **63369** (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі. У розніцу – цана свабодная. **№36 (385) 6.09.2002.** РУП «Друкарня «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ. 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Зак. № 2542. Падпісана ў друк у 13.00 5.09.2002

**Наш адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
**ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41, 5-07-99.**
**E-mail: regionnews@promedia.by**
**http://regionnews.promedia.minsk.by**

**ПРЫЁМ ДРОБНЫХ АБ'ЯЎ**

**Маладзечна:** Вялікі Гасцінец, 68а. **Тэл. 69667, 53841.**
**Вілейка:** вул. Вадап'янава, 23, капіравальны цэнтр «Парус». **Тэл. 55284.**
**Смаргонь:** вул. Танкістаў, 8, рэдакцыя «Новой газеты Сморгони». **Тэл. 33077, 34353.**

Разліковы рахунак №3012164030006 у філіяле ААТ «Белзнешэканамбанк» у Маладзечне, код 211, атрымальнік ТАА Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444